© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018


# Наша Свабода

№75 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

17 ЛІСТАПАДА 2000 года ПЯТНІЦА

КОШТ СВАБОДНЫ


Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com



стр.6

Какая там Европа!

## Чарговы «тэракт» у Мінску

Зміцер БУЛАЙ

**А 13-й гадзіне 15 кастрычніка ў прыёмнай галоўнага ўрача бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі прагучаў тэлефонны званок. Невядомы паведаміў аб закладзеным у траўматалагічным аддзяленні бальніцы «выбуховым прыстасаванні».**

У тэрміновым парадку ўсе пацыенты і персанал БХМД былі эвакуяваныя ў Інстытут траўматалогіі і артапедыі, што знаходзіцца непадалёк. Выкліканая брыгада сапёраў з адмыслова трэніраванымі на пошук выбуховых рэчываў сабакамі больш за дзве гадзіны шукала «бомбу», але нічога знойдзена не было. Зноў нехта па-дзікунску пажартаваў.

Дарэчы, першы ў Беларусі «тэракт» адбыўся ў ноч на 12 сакавіка 1995 г. у памяшканні Вярхоўнага Савета 12-га склікання, дзе 18 дэпутатаў парламента абвесцілі галадоўку ў знак пратэсту супраць дзеянняў А.Лукашэнкі. Тады таксама «невядомы» папярэдзіў спецслужбы пра закладзеную ў гэтым памяшканні «бомбу», і непакорлівыя дэпутаты былі «эвакуіраваны» ў прымусовым парадку.

За пяць апошніх ґадоў па сталіцы пракацілася хваля падобных «выбухаў». Часцей за ўсё «ўзрываліся» месцы, дзе праводзіла свае мерапрыемствы апазіцыя, а таксама сярэднія навучальныя ўстановы горада. А вось з лякарняй падобны выпадак здарыўся ўпершыню. ■

## Сям'я Захаранкі папрасіла прытулку

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Жонка экс-міністра ўнутраных справаў Беларусі Вольга Захаранка разам з дочкамі Аленай і Юляй ужо больш за чатыры месяцы знаходзяцца ў Германіі.

Яны паехалі туды на запрашэнне адной дабрачыннай арганізацыі, фармальна – на адпачынак і каб распавесці нямецкай грамадскасці пра падзеі ў Беларусі. Пра тое, што прыйдзецца застацца ў Нямеччыне, спачатку гаворка не ішла.

«Мы настройваліся на тое, што хутка вернемся дадому, але потым прыйшлі звесткі ад сяброў мужа, якія раілі нам не вяртацца. Яны казалі, што ў Беларусі нас будуць пераследваць за тыя выказванні ў бок рэжыму Лукашэнкі, якія мы казалі ў Нямеччыне. Мы больш як месяц ваганіся, і ўсё ж падалі заявы аб прадастаўленні нам палітычнага прытулку. Сапраўды, пакуль гэты рэжым пры ўладзе, нам вяртацца немагчыма», – паведаміла Вольга Захаранка.

Жывуць Захаранкі непадалёк ад Мюнстэра, у невялікай трохпакаёўцы ў шматкватэрным доме. Кватэру аплачваюць нямецкія сябры. Яны ж фінансава дапамагаюць тром жанчынам і двухгадоваму хлопчыку – Захаранкі з'ехалі разам з унукам Кірылам.

Палітычны прытулак, які адкрывае перад ўцекачамі шляхі да нармальнага жыцця, Захаранкі пакуль не атрымалі. ■



Шчыты рэжыму — супраць «Пераменаў!». Мінск, 12 лістапада

Фота IREX/ProMedia

## Правящему режиму понадобились мозги

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Принимая в своей рабочей резиденции экс-министра внутренних дел генерала Юрия Сивакова, глава государства отметил, что ценит мозги генерала и поэтому вновь призвал его на службу государеву. На этот раз в свою администрацию.**

Возвращение в строй Юрия Сивакова не для всех стало неожиданностью. На протяжении всех месяцев своей отставки и работы на одном из автопредприятий честолюбивый и неглупый экс-министр периодически посылал «сигналы» руководству страны о своей готовности и впредь преданно служить правящему режиму. Так как «сигналы» эти подавались и через оппозиционную прессу, то, видимо, поэтому, при новом назначении, А.Лукашенко ему сказал, что генерала уважает оппозиция. И это очень важно для власти в наступающий столь ответственный для режима период. Уж какая и кому оппозиция способна уважать исполнителя любых приказов своего хозяина, судить не просто. Да и не благодарно. А вот намек на всезнание «всевышнего» Ю.Сиваков, похоже, понял, перед телекамерой как-то стыдливо и покорно опустив голову. Помнится, когда вокруг главы МВД уж совсем сильно сгустились тучи аппаратных интриг, по государственному телевидению «резонировали» гадкие шутки с намеками на сюжеты о Самсоне и Далиле. Видимо, при этом имелись в виду интервьюерши генерала или авторы газетных публикаций о его судьбе. Надо ли гадать, кто в Беларуси жестко и единолично контролирует телевидение?

Сделав при А.Лукашенко стремительную карьеру от отставного полковника до генерал-лейтенанта, Ю.Сиваков, конечно, не был лишен собственных далеко идущих честолюбивых планов. По некоторым данным, будучи командующим внутренними войсками, он пытался их сделать самостоятельными (вне МВД) силами национальной безопасности. Что-то вроде корпуса карабинеров или жандармов. А став министром внутренних дел, и вовсе стал «продавливать» план реорганизации управления силовыми структурами. Согласно этому плану, вместо государственного секретаря Совета безопасности новым куратором должен был стать один из вице-премьеров правительства. Им Ю.Сиваков видел самого себя. А верного В. Шеймана в памятных записках главе государства предлагалось переместить из госсекретарей на должность главы администрации. ►

Окончание на стр.3

## «Гордиев узел» из газовых труб

Людмила ГУЛЯКЕВИЧ, Варшава

В последнее время в Польше весьма бурно обсуждается вопрос, связанный со строительством так называемой второй нитки газопровода из России в Западную Европу. Казалось бы, что строительство транзитного газопровода через ее территорию гарантирует стране одни экономические выгоды. Российский президент Путин даже заявил недавно, что Польша заработает на транзите газа 1 млрд. долларов прибыли. Однако вопрос не столь однозначный, как пытается представить его российская сторона. Экономические преимущества входят в противоречие с политическими интересами Польши.

Строительство первой нитки газопровода «Ямал-Западная Европа» было закончено осенью прошлого года. Польский участок — это 682 км «трубы», которые обошлись инвесторам в 1,36 млрд.USD. Весной этого года по газопроводу пошел газ — 12 млрд. куб.м, в том числе 2,5 млрд. для Польши. Трубопровод не используется еще на полную мощность — его пропускная способность рассчитана на 33 млрд. кубометров газа.

По прогнозам, потребности Польши в газе через 10 лет увеличатся в два раза — до 22 млрд. кубометров. Сегодня Польша большую часть потребностей в этом сырье покрывает за счет российского газа: она ежегодно покупает около 7 млрд. куб.м газа у России и около 500 млн. куб. м газа — у Германии, а еще 4 млрд. добывает сама. Стремясь диверсифицировать поставки стратегического сырья, польское правительство подписало с норвежскими властями декларацию об импорте норвежского газа в Польшу. Однако для реализации этих планов необходимо построить 200-километровый газопровод через Балтийское море. Стоимость строительства этого отрезка трубы составляет около 330 млн. USD, а инвестировать в него собираются датские и норвежские фирмы. Строительство может закончиться уже через 3-4 года. Предполагается, что на первом этапе по этому газопроводу в Польшу будет поступать 2,5-3 млрд. кубометров природного газа в год, а затем — 5 млрд. куб.м.

Однако импорт газа из Норвегии не разрешит все проблемы Польши. А по договору с Россией, подписанному в 1993 г., со второй нитки ямальского газопровода Польша получала бы 10 млрд. кубометров газа в год. Так что заинтересованность страны в строительстве новой нитки, можно сказать, налицо. Для России еще одна нитка газопровода означает продажу на Запад дополнительно 60 млрд. кубометров газа в год.

Проблемы и бурная дискуссия начались, когда «Газпром» неожиданно решил изменить трассу планируемой нитки. Первоначальные планы предполагали, что обе нитки будут проходить параллельно (земельные участки под газопровод подготавливались с мыслью о двух нитках, а именно трудности с выкупом земли у частных владельцев задержали сдачу первой нитки в Польше почти на два года), хотя договор 1993 г. предусматривал возможность отклонения трассы второй нитки газопровода в юго-западном направлении. ►

Окончание на стр.3

стр.7

### Кавалер ордена «Преклонение»



Саше Гуща вручена награда Международных детских фондов

стар.3

### Народнае меркаванне



Ці ўхваляеце Вы падпісанне дамовы аб пераходзе Беларусі з 2005 года на карыстанне расійскім рублём?

стар.7

### «Ідэя адкрытага грамадства»

Сфера працы Міжнароднага адукацыйнага цэнтра, які патраніруе урад германскай Зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія

стар.7

### Салдат Беларусі



Эсэ пра Сяргея Дубаўца

### НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» **1120**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## 30 мінімалак за «Святую Беларусь»

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

У Гродне 12 лістапада ў горадзе было затрымана 15 чалавек. Трое з іх аказаліся непаўнагадовымі, на астатніх былі складзеныя пратаколы. Студэнт Дзяніс Міхальчык і рабочы Сяргей Клімук пакараныя штрафамі па 30 мінімальных заробкаў кожны. Гэта — па 108 тысяч рублёў. Гэтак «крута» ўзяўся за пікетчыкаў суддзя Сяргей Ярашэвіч. Маўляў, яны, згодна з 3 міліцэйскім пратаколам, трымалі транспарант «Беларусь — гэта святое». Двум другім удзельнікам пікета— Наталлі Капцевіч і Андрэю Мельнікаву сп. Ярашэвіч крыху зменшыў пакаранне—па 20 мінімальных заробкаў штрафу. Толькі студэнтцы Вользе Філіповіч, якая трымала бяскрыўдны плакат «Пераменаў!», вынесенае папярэджанне.

Другі суддзя — Дзмітры Дземчанка, які судзіў дзвюх іншых студэнтак, папярэдзіў Іну Мялешку, а Алене Машкале прызначыў 20 мінімалак штрафу. Суды будуць працягвацца.

## Еўропа абяцае падтрымку

Лідэры аб'яднанай беларускай апазіцыі пачалі планавы візіт у асноўныя еўрапейскія сталіцы. Вінцук Вячорка (Партыя БНФ), Анатоль Лябедзька (АГП), Аляксей Кароль (БСДП) і Андрэй Саннікаў (Хартыя'97) сустрэліся 13 лістапада ў Парыжы з кіраўніцтвам дэпартамента Усходняй Еўропы французскага МЗС. У гэты ж дзень беларускія дэмакратычныя лідэры ў Брусэлі спаткаліся з камісарам Еўрапейскага Саюза па пытаннях міжнароднай палітыкі Крысам Патэнам.

Сп.Патэн высока ацаніў факт адзінства беларускай апазіцыі і падкрэсліў, што Еўрасаюз будзе працягваць уціск на рэжым Лукашэнкі для правядзення свабодных прэзідэнцкіх выбараў у 2001 г. Гэтак званая палата прадстаўнікоў не будзе прызнаная Еўрасаюзам, запэўніў К.Патэн і паабяцаў падтрымку Еўропы справе дэмакратыі ў Беларусі, а таксама правёў паралелі між Беларуссю і Сербіяй.

14 лістапада Вінцук Вячорка, Анатоль Лябедзька, Аляксей Кароль і Андрэй Саннікаў наведалі Берлін.

У Бундэстагу яны сустрэліся з кіраўніцтвам і сябрамі Германа-беларускай парламенцкай групы (Ута Цапф, Вольфганг Берэндт і іншыя дэпутаты). У міністэрстве замежных справаў беларускую дэлегацыю прыняў дзяржаўны міністр д-р Крыстаф Цёпель. Бакі абмяняліся думкамі пра новую сітуацыю ў Беларусі пасля краху спадзяванняў Лукашэнкі на прызнанне выбараў 15 кастрычніка, а таксама пра дэмакратычную перспектыву Беларусі ў 2001 годзе. Міністр Цёпель, адказваючы на пытанні беларускага боку, асабліва падкрэсліў, што прынцыповая пазіцыя федэральнага ўрада да недэмакратычных выбараў у Беларусі не можа мяняцца ў сувязі з стасункамі з Расіяй, і што палітычная стабільнасць у Расіі і падтрымка Расіяй недэмакратычнай Беларусі — рэч несумяшчальная.

Беларускія ўдзельнікі звярнулі ўвагу нямецкіх палітыкаў на расправы рэжыму над маніфестантамі 12 лістапада.

**Прэс-служба БНФ**

## Арганізатары акцыі — у падполлі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Цімафей Дранчук, Аляксей Чарняеў і Павел Севярынец, трое заяўшчыкаў акцыі «Пераменаў!», якая прайшла ў цэнтры Мінска ў мінулую нядзелю і скончылася затрыманнем больш як ста чалавек, вымушаны цяпер хавацца ад уладаў, якія жадаюць прыцягнуць іх да адміністрацыйнай адказнасці за арганізацыю несанкцыяванага мерапрыемства.

Да Цімафея Дранчука, з якім рэдакцыі НАШАЙ СВАБОДЫ ўдалося звязацца, дахаты прыходзілі міліцыянты і спрабавалі ўручыць ягоным бацькам позву ў суд з мэтай перадачы яе Цімоху, але бацькі позву браць адмовіліся. Паўла Севярынца пару разоў міліцыянты шукалі па тэлефоне на Управе БНФ. Прыходзілі дадому да Аляксея Чарняева.

Па словах Цімоха Дранчука, асабіста ён збіраецца хавацца надоўга — толькі да таго часу, як канчаткова высветліць, якая адказнасць яму пагражае, адміністрацыйная або крымінальная. Але праз тыдзень ён абяцаў з'явіцца на людзях.

## Самый гуманный суд в мире

**Наталья РАДИНА**

Новый уголовно-процессуальный кодекс содержит немало статей, противоречащих Конституции Республики Беларусь и международноправовым соглашениям, которые в свое время подписывала Беларусь.

Об этом было заявлено на первом заседании Международного клуба адвокатов, которое прошло 14 ноября в Центре по правам человека.

Новый уголовно-процессуальный кодекс вступит в законную силу 1 января 2001 года. По инициативе Лукашенко из него были исключены 52 статьи ныне действующего УПК. Им был ликвидирован суд присяжных и ограничено число представителей общественности на судебном процессе. Исключены из судебного процесса общественные защитники и обвинители. Вопреки ст.62 Конституции РБ, был сокращен перечень представителей обвиняемого на суде до адвоката и близких родственников. «Сегодня и без того решение лишить подсудимого свободы на срок до 10 лет судья принимает самостоятельно. Теперь же судьям предоставляются огромные полномочия», — заявил судья Верховного суда РБ в отставке Владимир Крыгин.

По его словам, новоиспеченный кодекс наделил дополнительными полномочиями прокурора — с 1 января в судебном процессе смогут участвовать несколько прокуроров. Права же адвокатов, по словам Владимира Крыгина, напротив, ущемлены. В нарушение свода принципов, утвержденных ООН, встреча задержанного с адвокатом должна проходить в присутствии следователя. Практически ликвидировано апелляционное рассмотрение уголовных дел и ограничено участие осужденного в пересмотре постановленных судом решений.

**ФОТАФАКТ**



Вечны клопат чалавека, які жыве з зямлі

## Ахтунг! Неуловимые иваны!

**Александр ДУБРАВИН**

Есть такой старый анекдот про неуловимого Джо, который потому неуловим, что его никто не ловит. Анекдот вспомнился мне в среду вечером, когда по ОРТ показывали сюжет о российских военно-морских летчиках. Я и раньше слышал от недоброжелателей, что в России — государстве очень обширном и перманентно пьяном — дураков на единицу площади чуть больше обычного, и что девяносто процентов их сосредоточено в армии. Но об авиации у меня было все-таки более благоприятное впечатление. Все-таки элитный род войск, интеллектуальный, романтический...

В том сюжете маршал авиации Корнуков похвастался телезрителям, что где-то далеко в океане российский самолет дважды пролетел над самой палубой американского авианосца, который в этот момент заправлялся от своего танкера. И что американцы на это никак не отреагировали, а только достали из танкера шланги. Вывод маршала: россияне переиграли американцев в маневре преодоления противовоздушной обороны. Мы, мол, над ними пролетели, а они нам за это ничего не сделали (!!!)

Зададимся вопросом: а если бы сделали? Если бы дежурному американскому сержанту отдали приказ: «Дай под хвост тому придурку, который гудит над головой!». Что было бы? Где был бы спустя некоторое время маршал Корнуков? А я скажу, где. Он стоял бы на платформе «Регалия» и руководил бы подъемом с морского дна останков своих летчиков. А российское телевидение показывало бы обмороки вдов. С утра до вечера по телеэкрану таскали бы гробы погибших героев, шовинисты и коммунисты призывали бы к резкому увеличению расходов на армию, а записные пропагандисты, вроде выпученного Леонтьева, гавкали бы на Америку. Будто Америка в чем-то виновата. Можно, кстати, представить реакцию американских моряков на это действие: чего это иваны сегодня так низко летают? К дождю, что ли? Как бы топливо не зажгли своими турбинами. Ишь как искрами сыплют!

*На самом деле то, что делают вдали от своей родины орлы Корнукова, на нормальном языке называется милитаристской провокацией. И предназначена она для пропаганды имперского духа.* Ручки чешутся у российских бонапартиков, моча в голову шибает, мнят о себе героически. А надо бы сидеть тихонько и не рыпаться. Потому как выпендреж российским летунам категорически противопоказан. Что значит, российский самолет пролетел над самой палубой корабля? Вдумайтесь! Это же опаснейший маневр для авиации, асы которой бьются эскадрильями на каждом авиапараде, как только начинают выпендриваться перед публикой. Как это вообще получилось? Как он не свалился в море, не задел мачты, не ошибся в выборе высоты? Как не запотело стекло в шлеме? Как гаечный ключ не попал в турбину? Как не выстрелил тормозной парашют? Как не отвалились элероны? Как в такой ответственный момент вдруг не закончилось топливо? Как в него не врезался другой, неопознанный самолет? Это ж надо как повезло! Хорошо, что так обошлось. Попам молебен бы заказать по этому случаю.

Интересно, (Корнуков об этом умолчал) летают ли американские летчики над российскими палубами? Наверно, нет. Во-первых, они умнее. Во-вторых, не считают Россию врагом, кормят ее и денег дают. В-третьих, зачем жечь топливо, если за деньги им и так все секреты расскажут. Двадцать первый век — век торжества интеллекта, но не имперского духа.

## Лукашэнка фінансаваў пераварот у Расіі?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Сенсацыйную заяву зрабіла ў судзе ўдава расійскага генерала Льва Рохліна, былога дэпутата Дзяржаўнай Думы і кіраўніка Руху ў падтрымку арміі (ДПА). Па яе словах, Аляксандр Лукашэнка выдзяляў грошы для ДПА, якое рыхтавала «мірны пераварот» у Расіі.

Нагадаем, што 3 ліпеня 1998 года 51-гадовы генерал Леў Рохлін быў знойдзены мёртвым у сваім доме ў вёсцы Клокава Нара-Фамінскага раёна Маскоўскай вобласці. Па падазрэнні ў забойстве была арыштаваная ягоная жонка, якая тады ж прызналася ва ўчыненні злачынства.

Паводле прызнанняў Тамары Рохлінай, яе муж «лічыў ельцынскі рэжым вінаватым у развале Расіі», і таму «рыхтаваў масавае мірнае выступленне сілавікоў». Па яе словах, адразу пасля забойства знікла «велізарная сума грошай, сабраная па ўсёй Расіі аднадумцамі Рохліна для фінансавання акцыі». Т.Рохліна сцвярджае, што пра акцыю ведалі Генадзь Зюганаў, Альберт Макашоў і Аляксандр Лукашэнка, «які дапамагаў мужу грашыма для гэтай мэты». Па яе словах, менавіта 3 ліпеня Леў Рохлін мусіў ехаць у Беларусь да А.Лукашэнкі.

Спасылка на «высокага заступніка» не дапамагла Тамары Рохлінай. Учора Нара-Фамінскі гарадскі суд прызнаў яе вінаватай у забойстве ўласнага мужа і прысудзіў 8 гадоў турэмнага зняволення.

Дарэчы, 17 лютага гэтага года ў інтэрв'ю расійскай газеце «Правда» А.Лукашэнка заявіў, што ведаў пра замах на жыццё Льва Рохліна і нават папярэджваў генерала пра гэта. Аднак той «не паставіўся да інфармацыі з належнай увагай», і «праз два дні яго забілі». «Адзіным змагаром, чалавекам, які адкрыта змагаўся за ідэю, з'яўляўся Леў Рохлін, якога за гэта прыбралі», — сказаў А.Лукашэнка.

## «Хельсінкі-XXI»

12 лістапада ў Мінску адбыўся ўстаноўчы сход рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Хельсінкі-XXI». Заснавальнікамі новай арганізацыі праваабарончага накірунку дзейнасці пажадалі стаць 123 грамадзяніны Беларусі, прадстаўнікі 21 рэгіёна краіны ўлучна з усімі абласнымі цэнтрамі і сталіцай.

На сходзе былі абраныя кіраўнічыя органы РГА «Хельсінкі-XXI» — сойм і рада.

У склад сойма ўвайшлі такія вядомыя грамадскія дзеячы і пісьменнікі, журналісты і праваабаронцы, як Святлана Алексіевіч, Сяргей Абадоўскі (г.Магілёў), Рыгор Барадулін, Жанна Літвіна, Аляксандр Мілінкевіч (г.Гродна), Аляксандр Патупа, Валянцін Тарас, Юры Хашчавацкі, Карлас Шэрман. Старшынёй сойма аднагалосна быў абраны Аляксандр Патупа.

Сваю павагу да новаўтворанай арганізацыі засведчылі Алесь Бяляцкі (праваабарончы цэнтр «Вясна»), Алег Волчак («Прававая дапамога насельніцтву»), Надзея Дударава (місія АБСЕ ў Беларусі), Вера Страмкоўская (ГА «Цэнтр па правах чалавека»), якія пажадалі прысутнічаць на ўстаноўчым сходзе РГА «Хельсінкі-XXI» у якасці гасцей.

Ад дыпламатычнага корпуса прысутнічаў першы сакратар пасольства Германіі ў Беларусі сп.Хольгер Крэмер.

**Прэс-цэнтр РГА «Хельсінкі-XXI»**

## На што збірацца беднаму студэнцтву?

**Кірэй МАНУЙЛА**

Дзень студэнта 17 лістапада сёлета ў Беларусі адзначаюць, паводле папярэдніх дадзеных міністэрства статыстыкі, 281 тысяча студэнтаў вышэйшых навучальных установаў. З іх пераважная большасць навучаецца ў дзяржаўных ВНУ – 244 тысячы чалавек. Што да студэнцкай ратацыі, то ў 2000 годзе выпушчана 39 тысячаў спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, а на першыя курсы прынята 68 тысячаў маладых асобаў.

Як жа маецца зараз традыцыйна беднае студэнцтва? А ўсё праблемней і бядней. Не стае інтэрнатаў, скарачаюцца ваенныя кафедры, працягвае дзейнічаць уведзенае з 1997 года ўказам Лукашэнкі прымусовае размеркаванне. Але моладзь не дужа хоча выпраўляцца ў чарнобыльскую зону. Толькі па афіцыйных дадзеных, да месца працы, вызначанага «прыгонным» размеркаваннем, даязджаюць усяго 25% выпускнікоў ВНУ.

Пра стыпендыю наогул без абурэння, смеху і слёзаў студэнты не кажуць. Мінімальная сацыяльная стыпендыя ў кастрычніку склала 5.760 рублёў, вучэбная – 7.200 рублёў, іменная – 14.040 рублёў. Нават улічваючы ўсемажлівыя падвышкі, напрыклад, за сярэдні бал сесіі, сярэдняя стыпендыя атрымліваецца ў памеры 7-10 тысячаў рублёў. Між тым у пераліку на долары яшчэ 5 гадоў таму яна была ў 2 разы большая.

## У Брузгах аднаўляецца рух

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

З 15 лістапада адноўлены рух на асноўным на Гродзеншчыне КПП на мяжы з Польшчай Брузгі—Кузніца Беластоцкая. Ён быў закрыты польскім бокам з 8 жніўня на рэканструкцыю. Палякі за гэты час выканалі пэўныя падрыхтоўчыя работы і будуць працягваць разбудову КПП. Фінансуюць іх еўрапейскія структуры. Нашы пачалі рэканструкцыю са свайго боку раней. Аднак яна вельмі зацягнулася, паколькі беларускія ўлады занадта паспадзяваліся на расійскія грошы, а рускія доўгі час амаль нічога не давалі.

Падчас закрыцця Брузгоў праезд у Польшчу ажыццяўляўся на КПП Берастравіца-2, які знаходзіцца ў пасёлку Пагранічны. Гэты пераход, які раней быў прызначаны толькі для грузавога транспарту, таксама застаецца адкрытым для легкавых машын. Таму, магчыма, былыя даўжэзныя чэргі ў Брузгах зараз крыху зменшацца.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# «Гордиев узел» из газовых труб

*Окончание. Начало на стр.1*

В конце 1999 г. «Газпром» предложил построить так называемый «связник» между уже действующими газопроводами, проходящий из Беларуси через восточную Польшу в Словакию (где он соединялся бы с газопроводом, идущим через Украину). Однако выбранная россиянами для польского участка газопровода трасса (от границы с Беларусью через Люблин и Жешов до границы со Словакией в районе Вельких Капушан) была для Польши неприемлема, поскольку проходила бы через охраняемые законом заповедники, а также через районы, где нет достаточного количества потребителей газа. С самого начала Польша предлагала рассмотреть возможность иных трасс в южном направлении, например, проходящих через промышленно развитые районы Шлёнска.

Кроме того, поляки отмечают также политический контекст строительства газопровода «в обход Украины». Украина является стратегическим партнером для Польши, которая заинтересована в том, чтобы эта страна развивалась как независимое и демократическое государство. Ясно, что в случае реализации проекта «связника» России, которая использует все возможности, чтобы подчинить Украину своему влиянию, легче будет диктовать ей свои условия (а известно, что россияне весьма заинтересованы тем, чтобы Украина рассчиталась за долги перед «Газпромом», передавая россиянам контроль над своей системой газопроводов).

Украинцы имеют также важный экономический козырь в диалоге с Польшей — совместный проект создания «пересылочного коридора» для каспийской нефти, который шел бы через Одессу на Гданьск.

Тем не менее, Польша не хотела бы осложнять своих отношений с Россией, а еще меньше – с Европейским Союзом, членом которого Польша стремится стать уже в 2003 году. ЕС выразил свою позицию в недавнем решении Европейской комиссии о двукратном увеличении поставок газа из России в Европу в ближайшие 20 лет (ныне западноевропейские государства покупают у России 80 млрд. куб.м газа). Для реализации этих планов необходимо построить новый газопровод, а самая короткая и дешевая трасса проходит через Беларусь и Польшу. В любом случае, новый газопровод обойдет Украину, которая до сих пор имела сильную позицию транзитного государства. Вслед за этим решением «Газпромом» подписан договор о совместном финансировании строительства нового газопровода с четырьмя западными концернами: немецким *Ruhrgas* и *Wintewrshall*, французским *Gas de France* и итальянским *Snam*.

Во время недавнего визита в Варшаву вице-премьера России Сергея Франка было принято решение о создании специальных рабочих групп, которые должны заняться техническими и экологическими проблемами, связанными с газовой инвестицией. Это только первый шаг в прямом (а не посредством прессы) диалоге между Россией и Польшей по вопросу новой нитки газопровода. Ожидается, что этот вопрос будет обсуждаться также во время официального визита в Польшу министра иностранных дел России в конце ноября. А в начале следующего года в Варшаву должен прибыть сам Путин.

Польский вице-премьер Януш Штайнхофф однако подчеркивает: «Мы заинтересованы в диалоге о дополнительном импорте газа из России в ЕС. Мы хотим быть значительным транзитным государством, но не хотим, чтобы это негативно повлияло на другие страны». Польша предлагает провести международную конференцию по вопросу газопровода с участием всех заинтересованных сторон, в том числе Украины и Словакии.

**P.S.** Что же касается обещанного Путиным миллиарда долларов прибыли от транзита газа для Польши, то не во всё, что красочно обещает Россия, можно верить. «Газпром» платит за транзит газа через польскую территорию не в польский бюджет, а владельцу польского отрезка «трубы» — фирме *EuroPolGaz*, 48% акций которой находится в руках «Газпрома». *EuroPolGaz* освобожден от подоходного налога (поскольку в ней участвует иностранный капитал) и пока не приносит прибыли, так что польский бюджет еще долго будет ждать обещанного миллиарда. ■

## ФОТАФАКТ




Імпарт у Беларусь на літоўска-беларускім памежжы

## Намеснік Клімава амніставаны

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

З мінскай калоніі выйшаў на волю Леанід Валковіч, якога ў пачатку года асудзілі разам з Андрэем Клімавым за раскраданне дзяржаўнай маёмасці. Л.Валковіч патрапіў пад амністыю. Шырокай грамадскасці Беларусі імя Л.Валковіча стала вядомае менавіта на працэсе над бізнесменам і дэпутатам А.Клімавым, звязаным з будоўляй элітнага дома на Лодачнай вуліцы (там цяпер жывуць дэпутаты і дыпламаты). Паводле пракуратуры, Валковіч, які быў намеснікам Клімава ў ягонай будаўнічай фірме, непасрэдна кіраваў будаўнікамі і мусіў быў падзяліць адказнасць за прыпіскі, знойдзеныя следчымі. ■

# Правящему режиму понадобились мозги

*Окончание. Начало на стр.1*

Говорят, что, противясь этому, генерал В.Шейман даже некоторое время демонстративно «бастовал» — отказавшись от сверхурочной работы. И это возымело действие — план реорганизации был отложен, а его автор был вынужден уйти на гражданку. Как оказалось, временно.

Можно предположить, что, идя на прием к главе государства, Ю.Сиваков так до конца и не знал, какую конкретно работу ему предложат. Поэтому и был в мундире при всех орденах. Как сказал его любимый руководитель, новый заместитель руководителя администрации, коим стал Ю.Сиваков, будет заниматься кадровыми вопросами. В том числе и по причине того, что сам руководитель администрации Михаил Мясникович испытывает дикие нагрузки и поэтому уже «еле ходит». Если многоопытный М.Мясникович действительно находится в таком состоянии, то для Ю.Сивакова он будет номинальным руководителем. Каковым, к примеру, он уже фактически является для своего первого заместителя Владимира Заметалина. Похоже, в высшей степени властолюбивый А.Лукашенко, каковым и полагается быть правителю, назначив Ю.Сивакова, создал новую комбинацию сдержек и противовесов. В том числе и пока еще всесильному госсекретарю Совбеза, который, как говорят некоторые высокопоставленные чиновники, не приглянулся своему российскому коллеге. Надо признать, что в сдержках и противовесах А.Лукашенко неплохо поднаторел у дедушки Ельцина.

Если предпринять краткий экскурс в историю белорусской власти 90-х, то можно вспомнить кто есть who. Когда М.Мясникович был правой рукой (первым вице-премьером) В.Кебича, новый заместитель администрации Ю.Сиваков работал неприметным чиновником в аппарате правительства. Позже при премьере появился В.Заметалин. Можно гадать, как у этой тройки складывались тогда отношения. Но то, что на нынешней службе они могут напоминать тройку из известной басни Крылова, представляется вполне вероятным. Так что у вернувшегося «самсона» хватит мозгов дополнить и разнообразить нервозную жизнь «слуг народа» новыми библейскими сюжетами. ■

## Ён, мусіць, з гарачкі скаціўся...

**Тамаш ПАЛЬМАЧЫНСКІ**

Быў калісь сярод лідэраў аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі адзін непадкупны і дужа прынцыповы чалавек. Завуць Мікалай, прозвішча Статкевіч. Палкоўнік запасу. Дзе ён? Не бачылі? Быў старшынёй сацыял-дэмакратычнай партыі, між іншым. Харошы чалавек. Куды прапаў? Як у багну! Апошні раз яго бачылі падчас падпісання агульнай рэзалюцыі Кангрэса дэмакратычных сілаў, на якім было прынятае рашэнне пра байкот выбараў у палату №2.

Толькі не блытайце з тым Статкевічам, які з лукашэнкаўскага тэлеэкрана лаяў апазіцыю. І з тым не блытайце, які ў партыйнай газеце напісаў, што арганізатарам Маршу Свабоды далі дваццаць тысяч, а яму не. І з тым, які на выбарах пабег папярод Абрамавай з Навасядам. І з тым, якога рэжым як смаркача абвёў вакол пальца, абгнюсіў, выціснуў, выкруціў, але ж у палату №2 не пускае: заслужы, паскачы, паліжы, пабрашы.

Быў чалавек, паважалі яго. А гэтых, новых Статкевічаў, не паважаюць. Няма за што. Больш таго: грэбуюць, рукі не падаюць. Бо палезлі яны ў палату №2 па акрузе, дзе ўжо ёсць законны, прызнаны ў свеце дэпутат Вярхоўнага Савета Андрэй Клімаў. Менавіта той, напомню, якога за сумленнае выкананне сваіх абавязкаў рэжым гноіць у турме. І Статкевічы прасілца на службу да Лукашэнкі па гэтай акрузе, мабыць, для таго, каб Клімава ўжо перасталі лічыць дэпутатам. А што? Хопіць! Бо ён жа не ўмее дамаўляцца з узурпатарамі і дыктатарамі, а Статкевічы ўжо навучыліся.

Той быў аўтарытэтны, куды прапаў? Які з гарачкі скаціўся. А гэтыя – абы-што, ні сабе – ні халуям. ■

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**1. Ці ўхваляеце Вы падпісанне дамовы аб пераходзе Беларусі з 2005 года на карыстанне расійскім рублём?**

**2. Ці не лепш было б перайсці на карыстанне польскімі злотымі або нямецкімі маркамі, як гэта зроблена ў Чарнагорыі?**



**БАГДАН, выпускнік гандлёвага каледжа:**

— Ну я нават не ведаю, і добра, і валюты сваёй пазбаўляемся...

— Можа быць, не думаў аб гэтым.



**ВАДЗІМ, займаецца маркетынгам:**

— Я аб гэтым не чуў, але лічу, што гэта канешне няправільна. Краіна асобная, мусіць быць свая валюта! Як гэта так, расійскі рубель?

— Свая валюта.



**НАСЦЯ, гандлярка:**

— Ай, мне ўсё роўна! Але не верыцца, што Лукашэнка аддасць грашовы друкарскі станок Маскве.

— Не, рублі лепш, усё ж неішта роднае, блізкае.



**ІГАР, рэкламны агент:**

— Ну і няхай, я не такі ўжо нацыяналіст.

— Ды яшчэ і лепш, каб якія-небудзь маркі. А ўвогуле, няхай бы была беларуская валюта, без розніцы, як называлася, але каб вельмі стабільная.



**ВАСІЛЬ КАНСТАНЦІНАВІЧ, мастак:**

— Ну вы ведаеце, па-мойму, галоўнае, каб валюта была стабільная. А астатняе не так істотна.

— Можа было б і лепш, каб была якая марка, як у той жа Чарнагорыі, але ці згадзіўся б на гэта наш народ? А ўвогуле, я хацеў бы сказаць, што гэтая інтэграцыя зараз рушыць, а народ аб ягоным меркаванні не пытаюць, так што...



**АЛЯКСАНДР, кіроўца тралейбуса:**

— Усё гэта, як бы вам сказаць, ерунда. Адзіная валюта – гэта долар, і па яму ўсё арыентуецца, а што тут будзе хадзіць – гэта не так істотна.

— Я за тое, каб увесці долар ЗША на тэрыторыі Беларусі!



**ТАЦЦЯНА, студэнтка:**

— Так, я ведаю аб гэтым і лічу падобныя ўчынкі цалкам няверным. Страта грошай дарэмная! Ды і ўвогуле дрэнна, што мы валюты сваёй пазбаўляемся.

— Ніякіх злотых, мусіць быць свая беларуская валюта! Увогуле, я супраць любых аб'яднанняў.



**ЛАГУЦІК АЛЯКСАНДР, студэнт:**

— Не ведаю, можа і правільна. Мы з-за нашага цяперашняга ўнутрыпалітычнага рэжыму ізаляваныя, а Расія пакуль што мае нейкія сувязі, і гэта перадасца нашай эканоміцы.

— Не, не варта нямецкіх марак і г.д. Лепш пазней, калі становішча стане больш стабільным, увесці сваю валюту, беларускую.

Апыталі
**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

**МЕДЫЦЫНА**

## Зеркало общественного здоровья

**Дмитрий КИРИЛЛОВ**

В 1980 году в Минске, на базе Городской клинической больницы скорой медицинской помощи, был создан Республиканский центр острых отравлений для пациентов с временными и истинными нарушениями психики, более известный в народе как отделение «токсикологии». За 20 лет работы здесь спасли не одну тысячу жизней.

Контингент, с которым ежедневно приходится сталкиваться персоналу «токсикологии», еще – это, кроме токсикоманов, бомжи, опустившиеся алкоголики, наркоманы со стажем, многие с богатым криминальным прошлым. Сюда попадают и люди, решившие по неким причинам свести счеты с жизнью.

Суицид – тема особая. Но следует отметить, что по числу самоубийств на душу населения среди стран бывшего СССР Беларусь занимает место после Латвии, Литвы, Эстонии и России. Но мы имеем огромный скрытый потенциал, настоянный на всеобщей алкоголизации и ненависти, культивирующейся в нашем обществе. Известно, что более 50% попыток покончить жизнь самоубийством у нас совершается в состоянии опьянения.

Основным средством сведения счетов с жизнью у пациентов токсикологии являются «таблетки». Хотя в последнее время, по словам заведующего отделением Игоря Михайловича Григорьева, количество острых отравлений сократилось на 23% в связи с удорожанием лекарственных препаратов и уменьшением их разнообразия в домашних аптечках. Но стабильной популярностью у лиц, склонных к самоубийству, пользуются прижигающие яды (всевозможные кислоты и щелочи).



Настоящим «бичом» нашего общества стало пьянство. Пьет сейчас почти все трудоспособное мужское население страны. В последнее время горячительные напитки вошли в «моду» и у женщин. В связи с этим в токсикологии наблюдается неуклонный рост поступлений с диагнозом «острое отравление алкоголем и его суррогатами»: за 9 месяцев 2000 года сюда доставлено 236 подобных «клиентов» при 163 за аналогичный период прошлого. Следует учесть, однако, что в само отделение завозят только самых «отравленных», большинство же проходит через так называемую «мойку» и в этой статистике не отображается.

Сравнительно новой, но быстро прогрессирующей болезнью нашего общества является наркомания, что опять же, как в зеркале, отражается в работе токсикологии. В 1996 г. в отделение с диагнозом «острое отравление наркотическими препаратами» доставлено 16 человек, в 1997 – уже 38, в 1998 – 63 человека, а в 1999-м – 167(!). Не станет, по-видимому, исключением и год 2000-й, так как за 9 месяцев зафиксировано уже 120 поступлений.

Нагрузка на токсикологию неукоснительно увеличивается. В конце 1980-х количество поступлений за 365 дней перевалило за тысячу, в конце 90-х – подошло к 3.000, но несравнимо ускорились темпы роста. По прогнозам И.Григорьева, в недалеком будущем Центр отравлений ожидает в год не менее 5 тысяч обращений за помощью. ■

# Болей цыгарэтаў – болей курыльшчыкаў

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

**Цікава, колькі зацятых курыльшчыкаў хоць бы сёння, у Сусветны дзень непалення, абыдуцца без тытунёвага дыму?**

Паліць амаль палова беларусаў: 47% ад усяго насельніцтва ў краіне – сталыя паленнікі. Па дадзеных Інстытута кардыялогіі, сярод усіх мужчынаў і жанчынаў ва ўзросце ад 25 да 34 гадоў паляць адпаведна 52% і 7%, ад 35 да 44 гадоў – 40% і 7%, ад 45 да 54 гадоў – 43% і 1%, ад 55 гадоў і вышэй – 38% мужчынаў і 5% жанчынаў.

Прычым спецыялісты кажуць, што колькасць тых, хто прызвычайваецца да цыгарэтаў, штогод расце. Асабліва сярод жанчынаў і моладзі. Сярод тых, хто мае ад 15 да 24 гадоў, паляць 70% маладых людзей.

Такое і здароўе. Санітарныя нормы, прынятыя ў Беларусі для тытунёвых вырабаў (гэта 1,3 міліграма нікаціну і 15 міліграмаў смалы на адну цыгарэту) – зусім толькі крыху змяншаюць шкодны ўплыў тытуню на чалавечы арганізм. Паленне так званых *«light»*-цыгарэтаў з паніжаным утрыманнем шкодных рэчываў дае ў гэтым сэнсе збольшага ўяўны эфект. У Еўропе ад паняцця «лёгкія цыгарэты» ўжо адмаўляюцца, бо, як кажа ўрач-валеолаг Рэспубліканскага цэнтра здароўя Аксана Шалястовіч, «курыльшчык усё адно дабярэ сваю «норму»: ён будзе больш глыбока зацягвацца альбо проста выпаліць болей цыгарэтаў».

Штодня ад хваробаў, звязаных з паленнем, у Беларусі памірае 42 чалавекі. На год гэта 15,5 тысячаў чалавек. Усяго менавіта праз звычку паліць можна прыдбаць сабе 25 самых розных хваробаў. Напрыклад, 97% усіх хворых на рак лёгкіх – тыя, хто паліць.

Пра небяспеку палення ў нас адно што багата гаворыцца, да рэальных антынікацінавых захадаў справа не даходзіць. Бо цыгарэтны, як і алкагольны продаж – немалая крыніца даходаў у дзяржаўны бюджэт. Беларускі тытунёвы рынак сёння складае звыш 25 мільярдаў цыгарэтаў. Легальны, без кантрабанднага тавару, змяшчае 16-17 мільярдаў штук. 40% ад гэтай колькасці выпрацоўваюць на Гродзенскай тытунёвай фабрыцы «Нёман». Прычым вытворчасць тут павялічваецца. Напрыклад, у 1996 годзе на фабрыцы выпусцілі 6,3 мільярда цыгарэтаў, у 1998 годзе – 6,8 мільярда, а летась – 8 мільярдаў. Таму не дзіва, што курыльшчыкаў болей.



Каб запабегчы гэтаму ці хоць бы абараніць тых, каму выпадае так званае пасіўнае паленне, у міністэрстве аховы здароўя спадзяюцца на з'яўленне ўжо да канца 2000 года ўрадавай пастановы «Аб абмежаванні шкоднага ўздзеяння палення». У прыватнасці, яна мусіць прадугледзіць абмежаванне рэкламы тытунёвых вырабаў і забарону палення ў грамадскіх месцах. ■

## Родители вынуждены признать свое бессилие и обратиться к школе

**Оксана ПРИХОДЬКО**

Этот случай всколыхнул Америку в начале сентября. Пятеро подростков, четыре мальчика и девочка, в возрасте от 14 до 17 лет, заказали на адрес заброшенного дома еду из китайского ресторана. Когда еду им доставили, чтобы не оплачивать заказ на сумму 60 долларов, они забили китайца-разносчика кирпичами. После этого, насладившись дармовой трапезой, отправились по своим благополучным домам, холодильники которых ломились от всевозможной пищи. Ведь все эти дети были из средних американских семей, вполне благополучных по самым строгим меркам.

Следствие вышло на след малолетних убийц спустя несколько дней. За все это время ни в одной семье ничего не заподозрили. Более того, мать 16-летнего Джеймса забилась в истерике, увидев перед своей дверью полицейских. Она панически боялась, что ее сын станет жертвой такого распространенного в Штатах насилия. Однако о том, что он сам станет убийцей, она не могла даже подумать.

Когда у родителей подростков прошел шок, они собрались вместе и попробовали проанализировать, что же в воспитании делалось неправильно и в какой момент был потерян контроль над детьми. Так и не найдя ответа, в отчаянии они обратились к американской общественности. По их мнению, все усилия по воспитанию детей добрыми и порядочными перечеркнуло разлагающее влияние видеопродукции и компьютерных игр. Ответственность, дисциплинированность, отзывчивость, которые они пытались воспитать у своих детей, перевесил поток насилия, жестокости и демонстративной безнаказанности, который льется с экранов и мониторов.

С этим вполне созвучны результаты социологического опроса, посвященного проблемам сексуального воспитания детей. Как оказалось, две трети опрошенных предпочитают переложить всю ответственность в этом вопросе на плечи школьных учителей. Большинство родителей заявляют, что разговоров на темы воздержания, предохранения, абортов и заболеваний, передающихся половым путем, подростки просто избегают. Зато в школе все эти темы могут быть изучены в приказном порядке. Уже к моменту вступления в тинэйджеровский возраст школьники, по мнению их родителей, должны быть подробно информированы не только о последствиях абортов и угрозе заражения, но и о более сложных вещах, включая нетрадиционную сексуальную ориентацию, последствия изнасилования, психоэмоциональные травмы «свободной любви». Более того, родители требуют, чтобы на уроках их детям давали совершенно конкретную информацию о том, где и как можно провериться на ВИЧ, куда обращаться в случае изнасилования, с кем обсудить проблему сексуальной несовместимости со своим партнером.

Результаты этого опроса показали, какие серьезные изменения общественного мнения произошли в стране после 1981 года – когда проводился аналогичный массовый опрос. Тогда 70 процентов американцев считали, что сексуальное воспитание детей нужно начинать только в колледжах, а до этого вполне достаточно знаний, которые они получают дома. Двадцать лет назад лишь 60 процентов родителей считали необходимым информировать своих детей о заболеваниях, передающихся половым путем. Сейчас таких родителей 98 процентов. Тогда на необходимости говорить с детьми о последствиях абортов настаивали 35 процентов родителей, сейчас – 79. А обсуждать проблемы гомосексуализма в 1981 году считали нужным не больше 30 процентов родителей против нынешних 76.

Социологи и педагоги считают, что подобные изменения в родительском восприятии сексуального образования в школе прогрессивны. Уже то, что, сознавая свою беспомощность в данном вопросе, они доверяют решение проблемы специалистам, звучит достаточно обнадеживающе. Возможно, следующий опрос покажет желание американских родителей ввести в качестве обязательного школьного предмета дисциплину «Как не стать убийцей». ■

**По материалам *International Herald Tribune***

**СПОРТ**

## Нашым да шахматных каралёў далёка

**Аляксей СТАЎСКІ**

У Стамбуле завяршылася сусветная шахматная алімпіяда. Беларусам там не ўдалося выступіць добра, ведаючы традыцыі і шахматны патэнцыял нашай краіны. Жанчыны выступілі-такі лепш за мужчын. У апошніх чатырох турах яны паказалі наступныя вынікі: перайгралі Харватыю – 2,5:0,5 ачка, нічыя з Індыяй – 1,5:1,5, Славакіяй з такім жа лікам, параза ад Іспаніі – 1:2. Агульнае месца нашай жаночай зборнай – дваццаць чацвёртае. А найлепшую гульню паказалі Генрыэта Лагвілава і, напэўна, адкрыццё беларускіх жаночых шахматаў 2000 года Наталля Папова.

А выйгралі жаночую частку спаборніцтваў кітаянкі, пакінуўшы другое месца грузінкам, а трэцяе – расіянкам.

Усё значна больш сумна ў мужчын. Хаця ў апошніх чатырох турах яны і паказалі нарэшце добрую гульню, перайграўшы па чарзе Азербайджан (2,5:1,5), Казахстан(3:1), Інданезію(3:1), а ў апошнім туры згуляўшы ўнічыю (2:2) з амерыканцамі.

Гэтыя перамогі ўзнялі нашых шахматыстаў толькі на трыццаць другі радок у турнірнай табліцы.

Што тут скажаш, правал. Але варта ўлічыць, што вельмі прыстойна выступіўшая зборная Ізраіля мела ў сваім складзе двух экс-беларусаў Барыса Гельфанда і Іллю Смірына, якія і задавалі агульны паспяховы тон у выступленнях ізраільцянаў.

У нас жа ў зборнай выдзеліць можна хіба толькі чацвёрты нумар каманды Вячаслава Дыдышку, які, нягледзячы на свой рэйтынг, набраў больш за ўсіх ачкоў.

Першыя ж тры месцы занялі адпаведна Расія, Германія і Украіна. ■

**КНІГАРНЯ**

З пачатку кнігадрукавання, ужо пяць стагоддзяў, лепшым падарункам сярод культурных людзей была і застаецца кніга. Для сённяшняй збяднелай Беларусі – кніга не толькі культурны, а, па сутнасці, і самы танны падарунак, які можна з гонарам зрабіць сябрам, родным, дзецям.

Дастойныя для падарунка беларускія кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13). У час летніх вандровак, сустрэчаў, выправы дзяцей за мяжу на выздараўленне варта мець для прэзентаў лепшую прыкмету нацыянальнай культуры, чым бутэлька гарэлкі.



Тэлефон кніжнай выставы – **284-85-11**.




Аптовы продаж выдання: Лешэк Бальцэровіч. «Сацыялізм. Капіталізм. Трансфармацыя». **239-15-32**.




Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ №869 Нумар падпісаны ў друк 16/11/2000 (15:00) Наклад – 9.280

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018